



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

15 мая 2015 года №20 **(1046)**




**Практычныя парады бацькам: як захаваць здароўе дзяцей**
старонка 5



**Вясельны сезон 2015: шакаладныя фантаны, лімузіны-карэты і іншыя тэндэнцыі**
старонка 20



**Сонца на спіцах… або Дзе ўзяць ровар напракат**
старонка 21

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### У Вілейцы 16 мая не будзе вады

ВІЛЕЙКА

У горадзе спыняць падачу вады ў суботу, 16 мая, ад 6 да 21 гадзіны. Зробяць гэта ў сувязі з планавым рамонтам гарадскіх водаправодных сетак і абсталявання водазабору. Арганізуюць забеспячэнне вадой. Набраць яе можна будзе па вуліцы Незалежнасці (ля крамы "Еўраопт"), вуліцы Гагарына (ля былой крамы №26) і вуліцы Кастрычніцкай (ля былой крамы №25), паведамілі ў Вілейскім водаканале.

**Аддзел інфармацыі.**





Фота з архіва "РГ".

Хлопцу, які збег у Мінск, надакучыла працаваць па размеркаванні трактарыстам. Ён патлумачыў, што ў вёсцы жыццё яго было сумным і аднолькавым штодзень.

# Трактарыст з Селішчаў: "Маё жыццё ў вёсцы стала сумным і аднастайным"

## Два месяцы следчыя шукалі зніклага хлопца

ВАЛОЖЫН

**19-гадовы валожынец знік 19 сакавіка.**

Хлопец працаваў па размеркаванні ў вёсцы Селішчы трактарыстам, жыў у бабулі з дзядулем.

У той дзень паехаў у Валожын лячыць зубы і знік.

– Валожынскі Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу, – кажа старшы следчы Валожынскага аддзела Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая**. – Аператыўнікі паднялі на ногі ўсе магчымыя арганізацыі. Над пошукам хлопца працаваў цэлы аддзел. Мы праверылі ўсе бальніцы, манастыры. Разаслалі арыенціроўкі ў суседнія раёны, далі інфармацыю ў СМІ.

– Потым з'явілася інфармацыя ад сваякоў хлопца, – працягвае Юлія Селятыцкая, – што ён, магчыма, з'ехаў за мяжу. Супрацоўнікі Валожынскай міліцыі звязаліся з некаторымі замежнымі ведамствамі.

9 мая хлопец вярнуўся ў вёску.

Аказалася, што адпрацоўваць трактарыстам яму не хацелася.

А 19 сакавіка хлопец наўпрост збег у Мінск. Грошай, што ўзяў з сабой на лячэнне зубоў, хапіла для таго, каб цягам двух месяцаў здымаць кватэру ў Мінску. Тут жа ён пазнаёміўся з дзяўчынай, завязаліся адносіны. Грошы скончыліся, маладзён вярнуўся дадому.

Калі следчыя сталі яго саромець і пытацца, як можна так рабіць, з'ехаць і нікому не сказаць пра сваё месцазнаходжанне, хлопец адказаў:

– Маё жыццё ў вёсцы стала сумным і аднастайным...

**Наталля ТУР.**

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Гаспадаркі: пабудовы і зямля ў заняпадзе

ВІЛЕЙКА

**Да такіх высноў прывёў маніторынг парадку на зямлі ў сельскагаспадарчых арганізацыях Вілейскага раёна.**

У таварыстве "Новая Любанія" ў аграгарадку Любань будынкі былога спіртзавода, кансервавага завода, вінцэха, цяплічнай гаспадаркі ў аварыйным стане і засмечаны. Гэта пагражае здароўю мясцовых жыхароў, у тым ліку дзяцей, якія часам тут гуляюць.

Жывёлагадоўчыя пабудовы на пустуючых фермах таварыства таксама нездавальняючыя. Каб забяспечыць іх захаванне, меры не прынялі. Ад 2002 года не выкарыстоўваюць дзве пабудовы, у жывёлагадоўчых будынках вёскі Галінова няма вокнаў, дзвярэй, часткова даху, тэрыторыя не агароджаная.

Вілейскі райаграсэрвіс доўга не выкарыстоўвае каля дзесяці жывёлагадоўчых памяшканняў, размешчаных у гаспадарцы "Дружба". Яны ў аварыйным стане, а прылеглыя да іх землі зарастаюць пустазеллем.

У абарот не прыцягваюць землі, прылеглыя да малочнатаварнай фермы, мехдвароў і іншых аб'ектаў. Яны засмечаныя будаўнічым смеццем і пустазеллем.

Толькі за адно наведванне заўважылі, што "Новая Любанія" не выкарыстоўвае 8 гектараў зямлі, прадпрыемства "Стайкі" – тры гектары, а "Даўгінава" – сем.

Тэрыторыя малочнатаварнай фермы "Старынкі" прадпрыемства "Стайкі" не агароджаная, а гнаясховішча перапоўненае. На тэрыторыі каля яе ўтварыліся гнаявыя азёры. Ферма "Цэнтр" таварыства "Даўгінава" таксама засмечаная, у тым ліку металаломам.



Фота забяспечана Уладзіславам ЛАНЮГОВЫМ.

Адзін з будынкаў гаспадаркі "Дружба" Вілейскага райаграсэрвісу, які ў аварыйным стане.

87 гектараў уздоўж ракі Ганукті Вілейскага райаграсэрвісу зараслі дрэвамі і кустамі, іх доўга не выкарыстоўвалі. Таму ў 2012 годзе перадалі таварыству "Нарачанскія зоры". Але дагэтуль іх не выкарыстоўваюць. Спачатку там трэба, каб папрацавалі спецыялісты прадпрыемства меліярацыйных сістэм.

**Паводле Уладзіслава ЛАНЮГОВА, намесніка старшыні Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

СВЯТКАВАННІ

## У Мядзеле 9 мая вучылі ў лясной школе і лячылі ў шпіталі

МЯДЗЕЛ.

**Тры ветэраны вайны былі ў цэнтры ўвагі на святкаванні 70-годдзя Вялікай Перамогі ў Мядзеле: Міхаіл Гардон, Сяргей Берняковіч і Андрэй Каўрус. Ім адводзіліся пачэсныя месцы на мітынгу, ім уручалі кветкі.**

Пасля мітынгу гараджане і госці накіраваліся да брацкай магілы на ўездзе ў Мядзел. Хвілінай маўчання ўшанавалі памяць ахвяр вайны, усклалі вянкі ды кветкі да помніка.

Потым у амфітэатры на беразе возера Мястра паказвалі тэатралізаваную кампазіцыю. Побач на плошчы размясціліся пляцоўкі, які падрыхтавалі сельскія саветы. У адной дэманстравалі партызанскую друкарню, у іншай – ваенна-палявы шпіталь. Тут не толькі "параненыя" ў вайсковай форме ляжалі – запрашалі праверыць здароўе ўсіх ахвотных. А хворым мікстуру для лячэння прапаноўвалі.

Сваткаўцы зрабілі "лясную школу". Пасталіся паказаць, як навучаліся дзеці ў партызанскім атрадзе. Настаўніца вучыла іх лічыць з дапамогай жалудоў, а пісалі яны на адваротным баку нямецкіх улётак. У перапынках дзеці зацягвалі "Кацюшу" ды прыпеўкі пра фашыстаў.

На пляцоўцы Слабадскага сельсавета частавалі гарбатай на зёлках ды бульбай у лупінах з чыгунка.

– Ой, які смак бульбы нязвыклы, – дзівіліся гарадскія дзеці.

Тут яшчэ выставу на ваенную тэму падрыхтавалі.

– Самыя цікавыя экспанаты на ёй – гэта арыгіналы лістоў з фронту і кніжка чырвонаармейца, – кажа настаўнік гісторыі Старагабскай школы-сада **Уладзімір Серадзінскі.**

Завяршылася святкаванне позна ўвечары акцыяй памяці з запальваннем свечак і салютам.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КОНКУРСЫ

## У Вілейцы падвялі вынікі конкурсу на лепшы твор пра вайну

ВІЛЕЙКА

**6 мая на ўрачыстым мерапрыемстве "Віват вясне, салют Перамозе!" падвялі вынікі конкурсу на лепшы літаратурны твор пра вайну "Не пра вайну пішу – пра чалавека". Усяго прыйшло 48 работ ад 41 удзельніка.**

Конкурс праходзіў у трох намінацыях: "Паэзія", "Проза", "Публіцыстыка". Вынікі падводзілі ў дзвюх узроставых катэгорыях: 12-17 гадоў, 18 гадоў і старэй.

У намінацыі "Паэзія" адзначылі **Святлану Вансовіч** з сярэдняй школы №3, **Вераніку Батуру** з Пагосцкага вучэбна-педагагічнага комплексу, **Мацвея Караля** з Даўгінаўскай сярэдняй школы.

Першае месца ў намінацыі "Проза" ўзяла **Валерыя Кабак** з вілейскай гімназіі №2. Другое і трэцяе месцы ў дзяўчат са школы №3 – **Дыяны Паўлоўскай** і **Яны Вайды.**

У намінацыі "Публіцыстыка" першае месца ў літаратурнай гасцёўні "На Парнасе" гімназіі №2. Другое заняла **Лізавета Арцішэўская** са Сцешыцкага вучэбна-педагагічнага комплексу. Трэцяе месца – **Паліна Гардзевіч** з гімназіі №1 "Логас".

У другой узроставай катэгорыі ў намінацыі "Паэзія" перамагла інжынер беларускага оптыка-механічнага аб'яднання "Зеніт" **Таццяна Цвяткова**, у намінацыі "Проза" – **Любоў Краўчонак** з Залескага вучэбна-педагагічнага комплексу, у намінацыі "Публіцыстыка" адзначылі **Клаўдзію Дубовік.**

**Валерыю Кабак** з вілейскай гімназіі №2 узнагародзілі другім дыпломам за ўнікальнае захаванне памяці пра героя Перамогі за "Партрэт героя, дапісаны ягонай дачкой і землякамі і пацверджаны архіўнымі матэрыяламі".

**Паводле загадчыцы цэнтральнай дзіцячай раённай бібліятэкі Святланы ТАМІЛІНАЙ.**



Фота забяспечана Воляй ТРУБАЧ

ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Пра газету гаворыць Яўген Драздоў

20 гадоў для газеты гэта многа ці мала? На пытанне адказаў у віншаванні пастаянны чытач Яўген Драздоў. Нядаўна ён расказаў нам, як людзі з Ушы ў непагадзь дабіраліся да Чысці і Краснага.

– Нават і не ўзгадаю, калі пачаў чытаць "Рэгіянальную газету". Здаецца, што знаёмы з ёй усё жыццё, – дзеліцца Яўген. – Вельмі падабаюцца артыкулы, у якіх звычайныя людзі расказваюць пра сваё нялёгкае жыццё. Многім падаецца, што іх жыццё звычайнае і няма нічога прыўкраснага. "Рэгіянальная газета" сваімі артыкуламі паказвае, што і ў звычайных, на першы погляд, людзей можна знайсці асаблівае. Героямі публікацыі могуць станавіцца простыя людзі.

Вельмі хочацца, каб пераважная колькасць людзей пазнаёмілася з газетай і не проста чытала яе, а не заставалася раўнадушнай да прачытанага, верыла ў тое, што яны могуць змяніць жыццё. А газета дапаможа ў гэтым.

Падабаецца не толькі газета, а і тое, як супрацоўнікі ставяцца да чалавечых праблем, клопатаў, пачуццяў. Заўсёды выслухаюць, дадуць параду. Часам хапае толькі ўсмешкі, спагадлівага слова – становіцца намашат лягчэй.

20 гадоў для газеты – гэта час, калі выданне добра зарэкамендавала сябе ў рэгіёне, і не толькі. А наперадзе цікавыя тэмы, мноства разнастайных ідэй.

Няхай маладосць і калектыву, і газеты захаваецца на доўгі час. Няхай газета імкнецца да новых здзяйсненняў.

**Галіна СІНІЦА.**

НАША ШЧАСЛІВАЕ ВЯСЕЛЛЕ

## Фота з вяселля ў газеце – і ваш падарунак будзе самы непаўторны!

**Грошы патрацяць, паштоўку выкінуць, а віншаванне ў газеце застанецца на памяць назаўсёды.**

Хочаце, каб ваша вяселле засталося не толькі ў сямейным архіве на фотаздымках і відэа? Тады новая рубрыка "РГ" "Наша шчаслівае вяселле" спецыяльна для вас!

Асляпляйце чытачоў сваімі шчаслівымі ўсмешкамі, дэманструйце свае непаўторныя ўборы, не хавайце сваіх пачуццяў.

Прыносьце фотаздымкі з урачыстасці ў рэдакцыю, і яны з'явяцца ў газеце, карэспандэнт раскажа вашу гісторыю кахання.

Па заканчэнні шлюбнага сезона на сайце з'явіцца галасаванне за лепшую пару. Пара, якая набярэ найбольшую колькасць галасоў, стане пераможцай. Прыз – прафесійная фотасесія Love Story.

"Рэгіянальная газета" знайшла выйсце для тых, хто не ведае, што падарыць на ўрачыстасць сваім блізкім і знаёмым. Фотаздымак у газеце будзе выдатным падарункам. Дайце адчуць віноўніку ўрачыстасці сябе сапраўднай зоркай!

**Цана за зорнасць на старонках газеты – 100 тысяч рублёў. Толькі да 15 чэрвеня дзейнічае акцыя, па якой цана зніжаная да 60 тысяч рублёў.**

Спяшайцеся, магчыма нехта ўжо ляціць у рэдакцыю, каб яго фотаздымак з'явіўся першым.

Адрас рэдакцыі: Вялікі Гасцінец, 68-а.

Тэлефон для даведак: **(8-0176) 76-96-67.**

**Аддзел інфармацыі.**

ЛІЧБА НУМАРА

**5,5** тысячы кіламетраў

столькі кіламетраў доўжыцца эксплуатацыйная даўжыня Беларускай чыгункі

Паводле Беларускай чыгункі

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

# Асцярожна!
## Лінія электраперадач

**Ахова ліній электраперадач ад пашкоджанняў з'яўляецца важнай дзяржаўнай справай. Пашкоджаныя лініі ствараюць перапынкі ў забеспячэнні электраэнергіяй прамысловых і сельскагаспадарчых спажыўцоў, населеных пунктаў, наносяць вялікія страты народнай гаспадарцы, могуць прывесці да гібелі людзей.**

Маладзечанскія электрычныя сеткі папярэджваюць кіраўнікоў калгасаў, арганізацый, прадпрыемстваў, грамадзян аб неабходнасці захоўвання "Правіл аховы электрычных сетак да і вышэй за 1000 В".

Вялікая колькасць пашкоджанняў ліній электраперадачы выклікаюць парушэнні правілаў праходжання работ паблізу або пад правадамі ліній электраперадачы, працы на трасах паветраных ліній стралавых кранаў, сельскагаспадарчых машын і механізмаў, лесанарыхтоўчых работ, збудавання ўсемагчымых аб'ектаў без ведама электрасетак іг.д., а таксама іншыя прычыны (накіды на правады, наезды на апоры ліній электраперадачы аўтатранспарту і сельгасмашын, дакрананне да правадоў высокогабарытных механізмаў, прастрэлы ізалятараў і інш.), падзенне дрэў на правады.

Таксама назіраецца рост гібелі людзей пры лоўлі рыбы паблізу і пад правадамі паветраных ліній, якія праходзяць над вадаёмамі, рэкамі ці азёрамі (набліжэнне вудаў на недапушчальную адлегласць да правадоў паветранай лініі).

Для забеспячэння захаванасці, стварэння нармальных умоў эксплуатацыі электрычных сетак устанаўліваюцца ахоўныя зоны.

Ахоўная зона паветранай лініі электраперадачы вызначаецца ўздоўж паветранай лініі электраперадачы ў выглядзе зямельнага ўчастка і паветранай прасторы, абмежаваных вертыкальнымі плоскасцямі, адлеглымі па абодва бакі лініі ад крайніх правадоў пры неадхіленым іх стане на адлегласці:

- 15 метраў для лініі напружаннем 35 кВ;
- 20 метраў для лініі напружаннем 110 кВ;
- 25 метраў для лініі напружаннем 220 кВ;
- 30 метраў для лініі напружаннем 330 кВ.

Зямельныя ўчасткі, якія ўваходзяць у ахоўныя зоны электрычных сетак, не адбіраюцца ў землекарыстальнікаў і выкарыстоўваюцца імі для правядзення сельскагаспадарчых і іншых работ з абавязковым захоўваннем патрабаванняў Правіл аховы электрычных сетак.

Асабліва небяспечнае судакрананне машыны, механізма і вудзільна непасрэдна з провадам паветранай лініі. Гэта магчыма пры рабоце транспарту і лоўлі рыбы пад паветранай лініяй, дзе можа адбыцца набліжэнне на недапушчальна блізкую адлегласць да провада, абрыў провада і яго падзенне на механізм ці наезд яго на абарваны провад.

Выкананне работ у ахоўнай зоне ПЛ з прымяненнем высокагабарытных машын і механізмаў павінна праходзіць па нарадзе-допуску, які выдаецца тэхнічным кіраўніцтвам ўладальніка машын і механізмаў. Допуск да работ па нарадзе-допуску робіць прадстаўнік электрычных сетак уладальнік ПЛ.

**У ахоўных зонах паветраных ліній ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

- працаваць у пралётах паветранай лініі, дзе ёсць абарваныя правады, а таксама набліжацца да апораў, што маюць абарваныя правады і падвяргаюцца аднабаковаму цяжэнню, а таксама да саміх абарваных правадоў на адлегласць 20 метраў;
- набліжацца да апораў паветранай лініі, якія маюць прыкметы замыкання на зямлю (разбураны ізалятар, абарваная вязка, вакол апоры выпарэнне вільгаці, пажар, раставанне снегу, на апоры гарыць дуга і г.д.) на адлегласць менш за 20 метраў, а таксама працаваць у пралётах, якія прымыкаюць да гэтых апораў;
- праязджаць пад правадамі паветранай лініі машынам і механізмам, якія маюць агульную вышыню з грузам ці без грузу ад паверхні дарогі больш за 4,5 метра;
- выконваць земляныя работы на глыбіні больш за 0,3 метра, а на ворных землях больш за 0,45 метра, на адлегласці менш за два метры ад апораў, падкосаў, адцяжак без пісьмовага дазволу ўладальніка лініі;
- складзіраваць кармы, угнаенні, салому, торф, дровы і іншыя матэрыялы, разводзіць агонь у ахоўных зонах паветраных ліній;
- лавіць рыбу;
- садзіць і высякаць дрэвы і кусты;
- узводзіць драцяныя агароджы для садоў, агародаў;
- прымаць самастойна якія-небудзь меры па зняцці провада з машыны ўручную, у тым ліку і з дапамогай якіх-небудзь прадметаў;
- дакранацца да апораў, залазіць на іх або прывязваць да іх жывёлу;
- накідваць ці прыстаўляць да правадоў ПЛ якія-небудзь прадметы;
- устройваць усялякага роду звалкі;
- размяшчаць запраўвачныя станцыі і іншыя сховішчы гаручазмазачных матэрыялаў у ахоўных зонах ПЛ;
- размяшчаць палявыя станы, ладзіць загоны для жывёлы, а таксама паліваць сельскагаспадарчыя культуры;
- запраўка машын гаручым;
- праца стогакідальнікам пад правадамі паветранай лініі.

Машыны і механізмы трэба спыняць толькі па-за ахоўнай зонай паветранай лініі. Пры аварыйным спыненні любой машыны ў ахоўнай зоне паветранай лініі яна павінна быць выцягнутая з ахоўнай зоны на буксіры ў самы кароткі тэрмін.

Пры падзенні провада паветранай лініі на машыну кіроўца павінен неадкладна спыніць машыну. Калі пры гэтым магчыма вызваліць машыну ад абарванага провада перамяшчэннем машыны, то неабходна зрабіць гэта як мага хутчэй і паведаміць аб тым, што здарылася, у электрычныя сеткі. Калі няма такой такой магчымасці, відавочца павінен паведаміць аб тым, што здарылася, у электрычныя сеткі і да прыбыцця аварыйнай брыгады ні кіроўца, ні відавочца не павінны прадпрымаць ніякіх дзеянняў. Набліжацца да такой машыны на адлегласць бліжэй за 20 метраў забараняецца.

Калі ў выніку наезду на апору, падзення провада паветранай лініі або ўзнікнення электрычнага разраду машына загарыцца, неабходна тэрмінова яе пакінуць, але так, каб не было адначасовага дакранання чалавека з машынай і зямлёй. Лепш за ўсё саскочыць на зямлю на абедзве сагнутыя ногі не трымаючыся за машыну. Аддаляцца ад машыны можна толькі скачкамі або "гусіным крокам", не адрываючы ступні ног адна ад адной, і аддаліцца такім чынам ад машыны на адлегласць не менш за 20 метраў.

**Пра здарэнне паведаміць у электрычныя сеткі па тэлефонах**:

(8-0176) 72-62-85, (8-0176) 72-65-36, Маладзечна, вул. Драздовіча, 27 або ў

- Маладзечанскія гарадскія электрасеткі - (8-0176) 74-70-70.
- Маладзечанскі РЭС - (8-0176) 54-62-15.
- Вілейскі РЭС - (8-01771) 5-56-65 .
- Валожынскі РЭС - (8-01772) 5-53-47, 144.
- Мядзельскі РЭС - (8-01797) 5-53-47.
- Да прыбыцця спецыяльнай брыгады электрасетак забараняецца прымаць якія-небудзь дзеянні па тушэнні машыны і набліжацца да яе на адлегласць бліжэй за 20 м.

Працаваць у ахоўнай зоне паветранай лініі арганізацыі, прадпрыемствы і прыватныя асобы могуць толькі пры пісьмовым дазволе і допуску Маладзечанскіх электрасетак.

Парушэнне Правілаў аховы электрычных сетак, якое выклікала або магло выклікаць перапынак у забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энергіяй, пашкоджанне электрычных сетак або прычыненне іншай шкоды народнай гаспадарцы, цягне за сабой адміністрацыйную адказнасць.

Згодна з Кодэксам РБ аб адміністрацыйных парушэннях (артыкул 20.3):

1. Парушэнне правілаў аховы электрычных сетак РБ цягне за сабой папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры:

- на фізічную асобу – да 20 базавых велічынь;
- на індывідуальнага прадпрымальніка – да 50 базавых велічынь;
- на юрыдычных асоб – да 200 базавых велічынь.

2. Парушэнне правілаў аховы электрычных сетак РБ, якое выклікала пашкоджанне электрычных сетак або перапынак у забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энергіяй, альбо прычыненне іншай шкоды, цягне за сабой накладанне штрафу ў памеры:

- на фізічную асобу – ад 20 да 50 базавых велічынь;
- на індывідуальнага прадпрымальніка – ад 20 да 100 базавых велічынь;
- на юрыдычных асоб – да 500 базавых велічынь.

Адміністрацыйнае спагнанне не вызваляе вінаватага ад пакрыцця матэрыяльнай шкоды ва ўстаноўленым парадку.

Маладзечанскія электрычныя сеткі
УНП 100071593

| Курсы валют НБ РБ | 7.05 | 14.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 14 250,00 | **14 160,00** |
| Еўра | 16 030,00 | **15 920,00** |
| Злоты | 3 990,02 | **3 919,20** |
| Расійскі рубель | 280,50 | **281,50** |
| Грыўня | 684,97 | **693,20** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 13.05** | | |
| Еўра | 15850/16100 | **15800/16070** |
| Долар ЗША | 14150/14500 | **14100/14300** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 6.05 | 13.05 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **25800** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 80000 | **80000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39800 | **36900** |
| Селядзец, 1 кг | 45000 | **45000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 118000 | **118000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12900 | **12900** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4800 | **4800** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 8200 | **8500** |
| Капуста, 1 кг (свежая) | 15900 | **14900** |
| Морква, 1 кг | 17900 | **17900** |
| Буракі, 1 кг | 6500 | **6000** |
| Радыска, 1 кг | 21000 | **19900** |
| Лімоны, 1 кг | 19900 | **27900** |
| Апельсіны, 1 кг | 18000 | **16900** |
| Мандарыны, 1 кг | 24900 | **26900** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 19900 | **23000** |
| Ківі, 1 кг | 33000 | **29900** |
| Памідоры, 1 кг | 32000 | **27900** |
| Агуркі, 1 кг | 24000 | **24900** |
| Перац, 1 кг | 57000 | **59900** |
| Вінаград, 1 кг | 38000 | **37900** |
| Бананы, 1 кг | 19900 | **19900** |
| Яблыкі, 1 кг | 13300 | **13500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 27000 | **29900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 6000 | **11900** |
| Сала, 1 кг | 65000 | **65000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

# Жанчыну насмерць збіў цягнік на насціле

МАЛАДЗЕЧНА

**Трагедыя здарылася ў 22:22 у нядзелю, 10 мая.**

Пра яе распавяла **Таццяна Субач**, старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце.

57-гадовая жыхарка Мінска пераходзіла чыгунку на перагоне Дубравы-Алёхнавічы па пешаходным насціле.

**Цягнік "Адлер-Калінінград" на гэтым прыпынку не спыняецца. Ад удару жанчыну адкінула на другі пуць.**

Цяпер міліцыя высвятляе, чаму загінулая, пераходзячы па пешаходным пераходзе, не азірнулася па баках і не ўбачыла цягнік. Праводзяць экспертызу, ці была яна цвярозая.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота railwayz.info

Жанчына загінула на пешаходным насціле на перагоне Дубравы-Алёхнавічы.

СЛУЖБЫ

## Пасварыліся – і падпаліў гаспадару дом

МЯДЗЕЛ.

Увечары 8 мая адбыўся пажар у вёсцы Верабі Крывіцкага сельсавета. У адным месцы ачаг загарання патушыў гаспадар, у другім – выратавальнікі.

Дом пацярпеў не вельмі моцна: на невялікай плошчы выгаралі дах і адна сцяна.

Як аказалася, дом падпалілі, расказаў галоўны спецыяліст інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Юры Вашкінэль.** Гаспадар разам з жыхаром Пузыроў працавалі ў людзей. Потым адзначалі і пасварыліся. Госць выйшаў з дома, падпаліў яго ў двух месцах і схаваўся. Гаспадар убачыў, як ён збягае.

Матэрыялы перадалі ў райаддзел Следчага камітэта, дзе ўзбудзілі крымінальную справу.

**Аддзел інфармацыі**

## Пайшоў на абгон – адбылося сутыкненне

МАЛАДЗЕЧНА

7 мая а палове першай дня на сёмым кіламетры дарогі Маладзечна-Валожын адбылася аварыя.

Кіроўца аўто "Шкода-Актавія" рухаўся ў накірунку Валожына. Побач з вёскай Груздава, пасля ўчастка дарогі з пад'ёмам, ён пачаў абганяць "Рэно-Меган". На дарозе было дзве паласы для спадарожнага руху, адна – для сустрэчнага. Кіроўца "Шкоды-Актавіі" выехаў на паласу сустрэчнага руху, калі перастройваўся – адбылося датычнае сутыкненне. Каб пазбегнуць далейшага сутыкнення, кіроўца "Рэно-Меган" накіраваў машыну ўлева і з'ехаў у кювет.

## Не вытрымліваў дыстанцыю – наехаў на аўтамабіль

7 мая а палове шостай дня БМВ наехаў на "Фольксваген- Пасат".

Кіроўца БМВ ехаў па Віленскай у бок Мінска. Аднак не вытрымліваў патрэбнай дыстанцыі перад аўто, якое ехала наперадзе. У выніку адбыўся наезд. Пацярпелых не было.

Кіроўцу БМВ прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці.

За рулём БМВ быў жыхар Мядзельскага раёна, за рулём "Фольксвагена" – маладзечанец.

Пра здарэнні паведаміў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош.**

**Галіна СІНІЦА.**

ЗДАРЭННІ

## У Чысцi знайшлі труп мясцовага жыхара 1987 г.н. з колата-рэзанымі ранамі

МАЛАДЗЕЧНА

Труп знайшлі 12 мая а палове шостай у чысцінскім скверы.

Пасля судова-медыцынскай экспертызы вызначылі, што смерць наступіла з прычыны розных колата-рэзаных ран шыі і грудной клеткі, адкрытага пераломy чэрапа.

Узбудзілі крымінальную справу за забойства з асаблівай жорсткасцю.

**Паводле ўпраўлення ўнутраных спраў.**

## У Дзень Перамогі маладзечанка ўдарыла мужа нажом

МАЛАДЗЕЧНА

Святкаванне Дня Перамогі скончылася зусім несвяточна для сямейнай пары з Маладзечна.

Пра здарэнне "Рэгіянальнай газеце" расказаў следчы Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч.**

Святкаваць сямейная пара пачала яшчэ з раніцы, у кватэры 39-гадовага гаспадара і 40-гадовай гаспадыні былі госці.

Калі госці пайшлі, гаспадар лёг спаць. Прачнуўшыся, стаў патрабаваць у жонкі працягу банкету, прасіў спіртнога. Завязалася бойка. Муж, збіўшы жонку, стаў пагражаць ёй нажом. Тая, выхапіўшы нож, ударыла ім мужа ў жывот.

Муж трапіў у бальніцу з колата-рэзаным ранамі жывата, з пашкоджаннем печані. Супраць жонкі ўзбуджаная крымінальная справа.

– Следчыя апрасілі і пацярпелага, таго, што была сварка паміж ім і жонкай, ён не адмаўляе, – падсумаваў Юры Багушэвіч.

**Наталля ТУР.**

УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць смаргонца, які паехаў на заробкі ў Расію і знік

СМАРГОНЬ

Смаргонскі раённы аддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу з прычыны прапаўшага без вестак **Аляксандра Віктаравіча Антонава,** 1977 года нараджэння.



2 лютага 2013 года каля паловы сёмай вечара ён выехаў на заробкі ў Санкт-Пецярбург, пасля чаго перастаў выходзіць на сувязь. Да гэтага часу яго месцазнаходжанне невядомае.

Мужчына жыў у Смаргоні па вуліцы Чапаева.

**Прыкметы:** на выгляд 36 гадоў, хударлявага целаскладу, рост каля 175 сантыметраў, валасы русыя кароткія.

Быў апрануты ў чорную ўцепленую куртку, шэрую кофту, сінія джынсы, чорныя паўботцы.

Асаблівых прыкметаў няма.

Калі вы нешта ведаеце пра абставіны знікнення Аляксандра Віктаравіча Антонава, паведаміце па наступным нумары тэлефона: **(8-01592) 42061.** Альбо звярніцеся ў Смаргонскі раённы аддзел Следчага камітэта *па вуліцы Савецкай, 25-а.*

**Паводле Смаргонскага раённага аддзела Следчага камітэта.**

КРЫМІНАЛ

## Самагоншчыка выдаў дымок з-пад зямлі

ВІЛЕЙКА

Укапаны ў зямлю самагонны апарат знайшлі на Вілейшчыне. Адбылося гэта 29 красавіка паблізу вёскі Куцькі Асіпавіцкага сельсавета.

– Участковы інспектар **Дзмітры Субач** меў інфармацыю, што ў лесе ў гэтым раёне вырабляюць самагон. Шукаў, прамок пад дажджом, – расказаў часовы выканаўчы абавязкаў намесніка начальніка Вілейскага РАУС **Дзмітры Антановіч.** – Раптам убачыў дымок, што ішоў з-пад зямлі...

Гэта працаваў укапаны самагонны апарат. На месцы быў і гаспадар – жыхар Вілейкі.

У трох ёмістасцях было 1500 літраў брагі. Яе знішчылі, апарат дасталі з-пад зямлі і вывезлі.

Ад 27 да 30 красавіка на Вілейшчыне праводзіўся комплекс мерапрыемстваў па спыненні незаконнага абароту алкагольных напояў. Яшчэ падчас яго знайшлі самагонны апарат ў хляве жыхара вёскі Ялажычы. Канфіскавалі шэсць з паловай літраў вадкасці – меркавана самагонкі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Гаспадар знайшоў скрадзеную лодку па аб'яве ў інтэрнэце

МЯДЗЕЛ

Знайшлі, хто скраў дзве лодкі "Казанка". Адна з іх знікла яшчэ восенню 2013 года, другая – праз год. Стаялі яны ў адным месцы на беразе Нарачы ў курортным пасёлку Нарач (Купа).

Гаспадар адной з лодак у канцы красавіка ўпершыню прыйшоў пасля зімы праверыць лодку і ўбачыў, што яе няма. Палез у інтэрнэт – і на сайце аб'яў убачыў, што прадаецца яго лодка. Выйшаў на чалавека, які яе прадаваў. Як аказалася, той не мае дачынення да крадзяжу і не ведаў, што лодка крадзеная. Яму гэту лодку за даўгі аддаў 25-гадовы жыхар раёна.

Праваахоўнікі ўстанавілі, што раней гэты ж маладзён прадаў мужчыну лодку, якую скраў у 2013 годзе.

У адносінах да маладзёна ўзбудзілі дзве крымінальныя справы за крадзеж. Лодкі коштам восем мільёнаў рублёў кожная вярнулі уладальнікам, расказаў старшы следчы Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Андрэй Ардынец.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Выхаванцы садка №1 у Маладзечне на занятках па фізкультуры. Злева направа: Улад Сакалоўскі, Даша Аноп, Ігнат Шыман, Насця Туціна, Саша Туціна, Аня Нагіх, Руслан Ганчарук. Фота Настассі РОЎДЫ.

● ВЫХАВАННЕ

# Наталля Сезіна: "Дзіцячы садок – жывы арганізм"

МАЛАДЗЕЧНА

**Арганізм кожнага выхаванца варта трэніраваць, накіроўваць энергію дзіцяці ў патрэбнае русла. Кіраўнік фізічнага выхавання садка №1 у Маладзечне Наталля Сезіна дае практычныя парады бацькам.**

Дзевяць раніцы. Час заняткаў. Цяпер чарга старэйшай групы. Яны ўжо добра ведаюць, што, як і для чаго рабіць, і амаль самі гатовыя паказаць рухі ахвотнаму.

– Ходзім па лаве, бегаем, скачам, поўзаем! – распавядаюць дзеці пра тое, чым займаюцца на занятках фізкультуры.

**– Што больш за ўсё любіце рабіць?**

– Гуляць! – адзінагалосна кажуць выхаванцы.

**– А ў што?**

– У "Рыбака і рыбку", у "Хітрую лісу", "Карасёў і шчупака", "Ката Апанаса", "Вожыка і мышак"!

Апошняя гульня, дарэчы, беларускамоўная. Гуляем у яе. Кожнаму ўдзельніку чапляюць хвост са стужкі, які вожык мусіць адарваць.

**– Слухайце, а навошта вы робіце гэтыя практыкаванні?**

– Каб быць здаровым і дужым.

– Каб ніколі не хварэць.

– І ўмацоўваць мышцы, праўда, дзеці? – далучаецца Наталля Іосіфаўна. – Вось плакат, на якім у разрэзе паказаныя ўсе органы чалавека. Раскажыце, што тут дзе ў яго?

– Сэрца, лёгкія, кішэчнік, жылы, крывяносныя сасуды, – дзеці паказваюць на адпаведныя органы.

– І што ўсім гэтым кіруе? – удакладняе спадарыня Наталля.

– Мозг, – не задумваючыся, усе разам, кажуць дзеці.

### "Для будучых педагогаў трэба ўвесці праверку матывацыі"

– У чалавека, які працуе з дзецьмі, мусіць быць шмат дадатковых якасцяў, – распавядае Наталля Іосіфаўна. – Падчас прыёму ў педагагічныя навучальныя ўстановы трэба праводзіць спецыяльны адбор. Калі чалавек ідзе вучыцца ў інстытут культуры, здае іспыты па спецыяльных творчых дысцыплінах. Штосьці падобнае трэба ўвесці і для педагогаў. Ва ўсялякім разе – праверку матывацыі і гатоўнасць працаваць з дзецьмі.

Ты мусіш быць артыстычным, бо дзяцей трэба зацікавіць. Ёсць розныя віды фізкультурных заняткаў. Навучальна-трэніровачныя падобныя да школьных. Ёсць яшчэ сюжэтныя, гульнявыя. Калі сюжэтныя, я магу быць у вобразе нейкага героя. Дзецям цікава, калі я мяняю інтанацыю ў голасе. Магу гаварыць ціха, магу гучна. Магу гуляцца з мімікай. Усё мае значэнне, – упэўненая спадарыня Наталля.

**Наталля Сезіна стала лепшым работнікам адукацыі на Маладзечаншчыне ў 2014 годзе. У садку №1 яна працуе цягам 19 гадоў.**

Кіраўнік фізічнага выхавання заўважае, што з кожным годам здароўе дзяцей, якія прыходзяць у садок, пагаршаецца. Цяпер гэта праблема актуальная для ўсяго свету. З гэтай прычыны варта яшчэ больш увагі надаваць фізічнай актыўнасці.

– Рух – натуральная патрэба дзяцей, – кажа Наталля Іосіфаўна. – На фізкультуры мы яе проста накіроўваем. Хаця гэтая патрэба мусіць быць натуральнай для ўсіх узростаў. Мы, мабыць, не зусім разумеем важнасць руху. Праз мышачную энергію выходзіць усё негатыўнае, што ўнутры нас. Чаму людзі цяпер у стрэсе, скардзяцца на дэпрэсіі? Дзеці разумеюць, яны адчуваюць гэта інтуітыўна, таму любяць бегаць, скакаць.

Мы ж вучым іх культуры руху, каб у іх сфарміраваліся адпаведныя навыкі. Каб яны потым маглі іх выкарыстоўваць ў паўсядзённым жыцці, – тлумачыць Наталля Сезіна.

### Сумесныя фізічныя заняткі аб'ядноўваюць бацькоў і дзяцей

У садку №1 ёсць стэнды, "куткі здароўя", дзе можна падгледзець карысныя парады бацькам па тым, як зберагчы здароўе дзіцяці.

– Я вітаю актыўную форму ўдзелу бацькоў у выхаванні дзяцей. Сумесныя фізічныя заняткі іх настолькі аб'ядноўваюць і збліжаюць! Мабыць, бацькі не да канца разумеюць важнасць гэтага. Пасадзіць дзіця глядзець мульцікі, вядома, можна. Я разумею, што ў гэты час бацькі могуць займацца сваімі справамі. Але сумесныя заняткі, у тым ліку і рухальныя, дапамагаюць стварыць сяброўскія, даверлівыя адносіны, – мяркуе Наталля Іосіфаўна.

Яна кажа, што часта даводзіцца тлумачыць бацькам, чаму гэта важна. І на такія сумесныя заняткі ў садок запрашаць вельмі настойліва.



Фота Настасі РОЎДЫ

Наталля Сезіна, кіраўнік фізічнага выхавання садка №1 у Маладзечне.

– Прыходзяць са скептыцызмам: а навошта мне гэта трэба? Аднак сыходзяць задаволеныя. Яны на нейкі час забываюць пра свае праблемы. Гэта мы, выхавальнікі, кожны дзень знаходзімся ў атмасферы дзіцячага смеху, шуму. А хтосьці ля станка ці камп'ютара. Мы даём бацькам магчымасць вярнуцца ў сваё мінулае і зразумець, чым жыве іх дзіця, – кажа спадарыня Наталля.

### Практычныя парады бацькам ад Наталлі Сезінай

**1. Выходзьце за межы кватэры**

Узгадайце, у што вы гулялі ў дзяцінстве: гумка, казакі-разбойнікі і гэтак далей. Перадайце веды дзіцяці.

**2. Карыстайцеся інвентаром**

Цяпер за невялікія грошы можна набыць санкі, лыжы, канькі, мяч, ролікі, фрызбі, ракеткі і іншае.

**3. Наведвайце грамадскія месцы, прызначаныя для фізічных заняткаў**

Працуюць басейны, спартыўна-забаўляльны цэнтр. Можна проста выйсці на стадыён любой школы і пагуляць на пляцоўцы, пакідаць мяч у кольца.

**– А дома вы займаецеся фізкультурай?** – пытаюся на развітанне ў дзяцей.

– Мы заўсёды ёй займаемся, – чую я колькі галасоў.

– Я з сястрычкай.

– Мы гантэлі падымаем.

– А я шарыкі збіваю.

**Настасся РОЎДА.**

● ІМПРЭЗЫ

# Выстава, што вяртае ў дзяцінства

ВІЛЕЙКА

**Падчас наведвання гэтай выставы ў вачах сталых людзей успыхваюць іскрынкі, кажа навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея Надзея Аўдзей:**

– Значкі ж раней амаль у кожнага былі. Пабачыўшы іх, наведнікі пачынаюць успамінаць: "І я ў дзяцінстве значкі збіраў", "Гэтага мішку я памятаю", "Такі значок у суседа быў, а ў маёй калекцыі не было".

На выставе "Фалерыстыка" можна пабачыць сотні значкоў і ўзнагарод. Праходзіць яна ў межах культурна-выставачнай адукацыйнай праграмы "Тыдзень калекцыянера".

На выставе значкі і ўзнагароды прадставілі тры калекцыянеры. Так сама ёсць значкі з фондаў музея. Падбіралі іх па тэматыцы: напрыклад, да Дня Перамогі. Частка прысвечаная Алімпіядзе-80 – памятаеце талісмана гульняў, усмешлівага Мішку? Ёсць значкі, прысвечаныя Першамаю, партыйным мерапрыемствам, помнікам архітэктуры, Вілейцы.

Дзеці могуць паглядзець, чым раней узнагароджвалі іх равеснікаў: значкамі "Лепшаму юнаму жывёлаводу, спартсмену".

### Ад казачных персанажаў да ваеннай тэматыкі

Самая вялікая калекцыя на выставе – віляйчанкі **Клаўдзіі Дубовік**. Найменшых наведнікаў зацікаваць значкі, прысвечаныя казачным персанажам і героям мультфільмаў. Ёсць асобная калекцыя для хлопчыкаў – значкі з выявай рэтраўтамабіляў.



Фота забяспечана Людмілай БУРКЕВІЧ.

**Юны калекцыянер Уладзімір Буркевіч збірае медалі і значкі.**

Юны калекцыянер **Уладзімір Буркевіч** з Ільі паказвае на выставе медалі і значкі пераважна на ваенную тэматыку.

Навуковы супрацоўнік музея **Андрэй Карткотка** прадставіў медалі розных краін: французскія, рускія, нямецкія і польскія ўзнагароды.

Выстава будзе доўжыцца да 22 мая. Паглядзець яе можна ў зале выстаў імя Сіліванозіча.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# Ноч музеяў у Маладзечне прысвецяць 70-годдзю Перамогі і слуцкім паясам

МАЛАДЗЕЧНА

18 мая ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі пройдзе культурна-асветніцкая акцыя "Ноч музеяў". Яна прымеркаваная да Міжнароднага дня музеяў.

Мерапрыемства будзе падзеленае на дзве часткі. Першая з іх пад назвай "Не гасне памяці свечка" прысвечаная 70-годдзю Перамогі. Яна пачнецца а шостай гадзіне вечара і будзе доўжыцца да васьмі гадзін вечара.

Другая частка "Вяртанне да вытокаў" будзе праходзіць з васьмі да дзесяці гадзін вечара. Падчас яе супрацоўнікі музея раскажуць пра слуцкія паясы.

Пра мерапрыемства расказала дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Таіса Лянкевіч**.

**Галіна СІНІЦА.**

● ВЫСТАВЫ

# Працы Васіля Шаранговіча паказваюць у Вілейцы

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

У Вілейскім цэнтры эстэтычнага выхавання праходзіць выстава "Роднай зямлі шматгалоссе". На ёй прадстаўлены працы народнага мастака Беларусі ўраджэнца Мядзельшчыны **Васіля Шаранговіча**.

Наведнікі могуць паглядзець 12 яго прац. Яны з фондаў Мядзельскага музея народнай славы.

Працягнецца выстава да 23 мая, паведаміла мастацкі кіраўнік цэнтра эстэтычнага выхавання **Таццяна Сушко**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Чыгунка – зона павышанай небяспекі

## Штогод на чыгунцы гінуць і атрымліваюць калецтвы людзі

**Чыгуначныя пуці з'яўляюцца небяспечнай зонай, бо заўсёды ёсць пагроза наезду рухомага саставу на людзей. Знаходзячыся на пуцях, трэба быць асабліва ўважлівым, захоўваць усе патрабаванні бяспекі, бо парушэнне іх можа прывесці да няшчаснага выпадку.**

Людзі ўвесь час некуды спяшаюцца. І каб перайсці пуці ва ўстаноўленым месцы ці праз пераходны мост, яны лезуць пад колы вагонаў, якія стаяць на станцыях. Ходзяць па рэйкавай каляіне, выскокваюць з вагона на хаду і г.д. Часта гэта заканчваецца трагічна. Пад коламі цягнікоў гінуць і атрымліваюць калецтвы людзі ў шмат разоў больш, чым у крушэннях і аварыях.

На бяспеку людзей і на барацьбу з невытворчым траўматызмам затрачваюцца велізарныя сродкі. Прымаюцца эфектыўныя меры для таго, каб цалкам ліквідаваць ці звесці да мінімуму няшчасныя выпадкі. У гэтых мэтах шырока ўкараняюцца аўтаматыка, тэлемеханіка, электроніка, самыя новыя сродкі сувязі. На станцыях і раз'ездах усё больш будуецца зручных для карыстання пасадачных платформаў, будуюцца пуцеправоды, пешаходныя масты і тунэлі, узмацняецца асвятленне.

Чыгуначнікі сумесна з тэрытарыяльнымі органамі ўлады вядуць растлумачальную работу сярод насельніцтва, выдаюцца памяткі, множыцца колькасць указальнікаў і плакатаў. Прадугледжваюцца і штрафныя санкцыі да парушальнікаў, калі іх учынкі не цягнуць судовай адказнасці.

Важна, каб і бацькі, і школа вялі растлумачальную работу, бо дзеці не заўсёды ўсведамляюць ступень небяспекі.

На жаль, дарослыя і самі становяцца ахвярамі няўважлівасці. Больш за трэць траўмаваных – асобы ў нецвярозым стане.

Важна пераканаць чалавека, што хадзіць па пуцях крайне небяспечна. Бо гэта прамая пагроза бяспецы руху цягнікоў. Уяўляеце, як адчувае сябе лакаматыўная брыгада, калі наперадзе на пуцях – пабочныя людзі? Кожны чалавек, нават не знаёмы з механікай, добра ведае, як цяжка спыніць цяжкі прадмет, калі ён рухаецца па інерцыі. А якая вялізная сіла патрэбная, каб спыніць грузавы ці пасажырскі цягнік, які рухаецца на вялікай хуткасці!

Састаў грузавога цягніка вагой 3-7 тысяч тон, напрыклад, рухаецца з хуткасцю 70-80 кіламетраў у гадзіну. Тармазны шлях можа мець розную даўжыню. У грузавога – 800-1200 метраў, а ў экспрэса пры хуткасці 140-160 км/гадз. – паўтара і больш за кіламетр. З-за густога лесу, крывых участкаў машыніст бачыць каляіну толькі на 200-300 метраў.

Няшчасныя выпадкі адбываюцца і з пасажырамі, якія спрабуюць ускочыць у вагон на хаду цягніка ці выскачыць з яго да поўнага спынення. Нярэдка пасажыры саскокваюць з пасажырскіх платформаў на рэйкі і трапляюць пад цягнік.

І яшчэ пра адну небяспеку. Правілы паводзін у цягніку забараняюць выкідваць з вагона смецце ці якія прадметы. І не толькі таму, што забруджваюць пуці. Выкінутыя ў акно ці дзверы вагона бутэлька, бляшанка, іншае, нават і не цяжкія прадметы, уяўляюць небяспеку для тых, хто аказаўся ля цягніка. Нярэдка моладзь бачыць задавальненне ў тым, каб кідаць што-небудзь у бок ідучага цягніка. Церпяць ад гэтага пасажыры ці лакаматыўная брыгада. Таму калі вы апынуліся каля чыгуначнага пуці, адыдзіце як мага далей.

Штогод на чыгунцы нашай рэспубліцы гінуць і атрымліваюць калецтвы людзі.

За тры месяцы 2015 года на тэрыторыі Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі зафіксавана 18 выпадкаў траўмавання грамадзян, не звязаных з вытворчасцю (супраць 17 у 2014 годзе). З іх смяротна траўмаваныя 11 чалавек (11 у 2014-м). З 18 выпадкаў траўмавання 5 адбылося на перагонах, 13 – на станцыях і прыпыначных пунктах.

Аналіз няшчасных выпадкаў паказаў, што колькасць іх застаецца высокай. А гэта выклікае сур'ёзную трывогу за жыццё і здароўе людзей, якія карыстаюцца чыгуначным транспартам ці жывуць паблізу чыгункі.

На жаль, многія пешаходы да папераджальных сігналаў на станцыях і пераездах ставяцца як да капрызаў чыгуначніка, праяўляюць бестурботнасць, імкнуцца скарацiць шлях і пераходзяць пуці ў любым, неўстаноўленым для гэтага месцы. І расплачваюцца за сваю недысцыплінаванасць уласным здароўем і жыццём.

Каб не стаць ахвярай няшчаснага выпадку, кожны чалавек павінен ведаць і выконваць наступныя **ПРАВІЛЫ БЯСПЕКІ на чыгуначным транспарце:**

1. Пераходзіце чыгуначныя пуці па пешаходных мастках, насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўстаноўленыя ўказальнікі "Пераход праз пуці".
2. Калі пераходзіце пуці па пешаходным насціле, перш пераканайцеся, ці не рухаецца цягнік, лакаматыў.
3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва спыніцеся, прапусціце іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу на суседніх пуцях, прадоўжыце пераход.
4. Калі падыходзіце да чыгуначнага пераезда, то ўважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй. Перш чым перайсці пуці, пераканайцеся, ці не набліжаецца да пераезда цягнік, лакаматыў.
5. Садзіцеся ў вагоны і выходзьце толькі пасля поўнага спынення цягніка, з боку пасадачнай платформы.

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА :**

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.
2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад транспартам, калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.
3. Пераходзіць праз пуці адразу ж пасля праходу цягніка аднаго напрамку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка на сустрэчным напрамку.
4. Падлазіць пад вагоны і пераходзіць па счэпных прыборах вагонаў.
5. На электрыфікаваных участках набліжацца да неабгароджаных правадоў або частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ВЛ).
6. Пакідаць дзяцей без нагляду на пасадачных платформах і ў вагонах.
7. Перавозіць у вагонах лёгкаўзгаральныя і выбуховыя рэчывы.
8. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў, ва неўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовага і далёкага следавання.

Маладзечанская дыстанцыя пуці, калектыў якой звяртаецца з гэтым лістом да чытачоў, размешчаная ў 9 раёнах Мінскай, Гродзенскай і Віцебскай абласцей. Калектыў абслугоўвае больш за 700 кіламетраў чыгуначных пуцей, 100 пераездаў, 74 прыпыначныя пункты і вялікую колькасць іншых збудаванняў чыгуначнага транспарту.

Усім нам далёка неабыякавы лёс людзей, якія загінулі або траўмаваныя на пуцях – ні машыністу цягніка, які пасля прыпынку саставу спяшаецца на дапамогу, ні работнікам пуці, якім трэба даставіць пацярпелых сваімі сіламі і транспартам у спецыяльныя ўстановы і правесці службовае расследаванне.

Паважаныя чытачы газеты! Будзьце ўважлівыя і цярплівыя пры сутыкненні з чыгункай. У гэтым залог вашай бяспекі і бяспекі вашых родных і блізкіх людзей.

Маладзечанская дыстанцыя пуці.
УНП 600199567

● СВЯТЫ

# Вясельны сезон 2015: шакаладныя фантаны, лімузіны-карэты і іншыя тэндэнцыі

МАЛАДЗЕЧНА

**Лета – гарачы час для вяселляў. Што модна ў гэтым сезоне, якія з'явіліся навінкі і якія цэны на вясельныя паслугі, высвятляем разам.**

**Таццяна Казлоўская**, гаспадыня аднаго з вясельных салонаў, расказала, што вясельную сукенку можна ўзяць напракат ад 170 тысяч рублёў да трох мільёнаў. Дзяўчаты, часцей, выбіраюць сярэдні кошт – за паўтара-два мільёны рублёў.

Звычайна выбіраюць сукенку за тры месяцы да вяселля.



Фота Антона ШАБУНЕВІЧА.

Каб вясельныя фотаздымкі атрымаліся, патрэбны добры настрой і адчуванне шчасця ў душы.

## У модзе сукенкі з карункамі і басачкамі

Цяпер у модзе сукенкі з карункамі, да якіх прымацаваныя басачкі альбо паясы. Раней нявесты адкрывалі плечы – цяпер большасць закрывае іх карункамі. Вэлюм – падоўжаны з карункамі альбо расшыты бісерам ці з камп'ютарнай расшыўкай. Некаторыя нявесты адмаўляюцца ад вэлюму і выбіраюць вяночак. Колер айвары (слановай косці) стаў карыстацца меншым попытам, часцей выбіраюць беласнежныя сукенкі.

**Гаспадыня вясельнага салона раіць выбіраць сукенку з маці альбо сястрой. Яны сапраўды могуць параіць, што пасуе дзяўчыне, падкрэслівае яе прыгажосць.**

Таццяна Казлоўская адзначае, што рэдка дзяўчаты, якія прыходзяць выбіраць сукенку з сяброўкай, выбіраюць той варыянт, які падыходзіць да твару, пасуе да фігуры.

– Звычайна сяброўкі раяць тыя ўборы, якія б апранулі самі, – дзеліцца досведам жанчына. – Аднак яны не заўсёды падыходзяць нявесце.

У практыцы Таццяны Казлоўскай быў выпадак, калі сяброўка дапамагала выбіраць сукенку нявесце. Дзяўчына паказвала пэўныя мадэлі, раілася наконт іх. У выніку прадавачка заблыталася, каму выбіраюць сукенку. Калі дайшлі да прымерачнай, аказалася, што ў нявесты іншы памер, а прапанаваныя сукенкі ёй наогул не падабаюцца.

– Часам нявесце з выбарам дапамагае жаніх, – усміхаецца Таццяна. – Звычайна для яго важна, каб сукенка не была вельмі пышная, каб жаніх мог падступіцца да нявесты. Асаблівых адрозненняў паміж сукенкамі мужчыны не бачаць. Для іх гэта проста белая сукенка, якая робіць яго суджаную незвычайнай.

## Белыя сарочкі для жаніхоў выйшлі з моды

Касцюм для жаніха напракат можна ўзяць за 300 тысяч рублёў. Купіць ад 300 тысяч да 3 мільёнаў рублёў.

– Жаніхі выбіраюць касцюмы і сарочкі пераважна светлых колераў, – расказвае супрацоўніца магазіна "Рэспект". – Карыстаюцца попытам касцюмы белага, малочнага колераў. Да касцюмаў мы дапамагаем выбраць сарочку, запінкі, гальштук альбо бабачку.

Касцюм падбіраюць так, каб ён пасаваў да ўбора нявесты.

**Гаспадыня вясельнага салона "КаханаЯ" Зінаіда Клімовіч адзначае, што напракат бяруць касцюмы сіняга, васількавага колераў, да іх – бэжавыя, ружовыя сарочкі. Белыя сарочкі цяпер не карыстаюцца асаблівым попытам.**

Вяселле складаецца з дробязяў, купляючы якія маладыя з галавой акунаюцца ў свята. Такія прыемныя дробязі, як падушачкі для пярсцёнкаў, можна купіць за 35 - 50 тысяч рублёў, букет-муляж – за 50 - 85 тысяч рублёў. Хустачка, якой пакрывае галаву нявесты свякроў, каштуе ад 50 да 160 тысяч рублёў.

## Нявесты хочуць фотасесію, жаніхам гэта непатрэбна

Памяць пра вяселле дапамогуць захаваць фотаздымкі і відэа.

Мінімальны пакет фотаздымкаў (рэгістрацыя ў ЗАГСе і прагулка) можа заказаць ад 100 да 200 тысяч рублёў, звычайны пакет (зборы нявесты і жаніха, выкуп, роспіс, прагулка і банкет) каштуюць ад 250 да 400 тысяч рублёў.

Фатограф **Антон Шабуневіч** раіць маладым парам перад вяселлем зрабіць фотаздымкі тыпу Love Story, каб яны ўбачылі, як працуе фатограф, убачылі фотаздымкі – а раптам не спадабаюцца.

– У большасці выпадкаў дзяўчына хоча зладзіць перадвясельную фотасесію, а вось жаніхі не вельмі ахвотна пагаджаюцца, – дзеліцца досведам фатограф. – Таму многія знаёмяцца з работай фатографа толькі на вяселлі.

## Навінка сезона – лімузін-карэта

Узяць машыну напракат – каля 400 тысяч рублёў за гадзіну. Карыстаюцца попытам рэтрамашыны, напрыклад, ГАЗ-21. Навінкай сезона стаў лімузін-карэта.

У маладых таксама ёсць магчымасць зрабіць першы танец незвычайным, у гэтым дапаможа спецыяліст. Цана за пастаноўку танца – 500 тысяч рублёў.

Вясельныя афармляльнікі сталі прапаноўваць арэнду шакаладных фантанаў і фантанаў для напояў. Фантан 20 сантыметраў каштуе каля 150 тысяч рублёў, сярэдні, у 36 сантыметраў, – каля 300 тысяч рублёў, вялікі, 50 сантыметраў, – каля 400 тысяч рублёў. Аднак у цану арэнды не ўваходзяць цэны на шакалад і напоі.

**Галіна СІНІЦА**
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ

# Сонца на спіцах... або Дзе ўзяць ровар напракат

**Надыход вясенне-летняга сезона вымушае прыводзіць сябе ў належную фізічную форму, рухацца, часцей бываць на прыродзе. І без ровара гэта зрабіць магчыма, але цяжка.**

У артыкуле мы сабралі месцы, дзе вы ў рэгіёне можаце ўзяць яго напракат.



Фота забяспечана Ігарам ЗАХАРАНКА.

**Велааматар з Маладзечна Ігар Захаранка. Як толькі цяплее на вуліцы, ён адразу перасаджваецца на ровар.**

### МАЛАДЗЕЧНА

Сёлета ўзяць ровар напракат можна ў гандлёва-эканамічным каледжы. Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" распавёў кіраўнік фізічнага выхавання каледжа **Юры Бядрыцкі.**

Дзве гадзіны велавандроўкі абыдуцца вам у 30 тысяч рублёў. Калі ж браць ровар на суткі – каштаваць гэта будзе 60-70 тысяч.

Узяць веласіпед напракат можна да 18:00 ва ўсе дні, акрамя выхадных.

Сёння ў "велапарку" каледжа ёсць чатыры ровары. Працаваць велапракат будзе да канца сезона.

Яшчэ адзін велапракат працуе ў Доме быту, што па вуліцы Будаўнікоў.

Там суткі пракату дарожнага ровара будуць каштаваць 31 500 рублёў, горнага – 33 600.

У наяўнасці ёсць адзін горны веласіпед і тры дарожныя. Працуе Дом быту з 8:00 да 18:00. Выхадны дзень – субота, нядзеля.

Па тэлефоне супрацоўніца Дома быту адказала:

– Калі вы будзе браць ровар, вы адразу скажыце. Я папрашу, каб колы хоць надзьмулі.

Яшчэ ў Маладзечне працуюць некалькі прыватных фірмаў, якія таксама даюць ровары напракат.

### МЯДЗЕЛ

У горадзе працуе пункт пракату веласіпедаў на базе Дома быту. Тут расказалі, што, хаця іх у наяўнасці аж 10 штук, попытам яны не карыстаюцца, таму што ў кожным санаторыі працуе свой пункт пракату. Але ўзяць напракат ровар можна штодзённа, акрамя нядзелі.

### ВІЛЕЙКА

У Вілейскім Доме быту ўзяць ровар напракат можна за 5 800 рублёў у суткі. Так, пракат каштуе як палова буханкі хлеба.

Паездкі цягам месяца на вілейскім ровары абыдуцца вашаму бюджэту ў 79 600 рублёў.

Працуе Дом быту штодзень, акрамя нядзелі і панядзелка.

– Але попытам ровары, усё адно, не карыстаюцца, – адказалі ў Доме быту.

### ВАЛОЖЫН

Сёлета пракату веласіпедаў у Валожыне няма. Суразмоўца з Валожынскага аддзела адукацыі патлумачыла, што "ровары былі, але хутка прыйшлі ў заняпад". Іншых месцаў пракату ў горадзе мы не знайшлі.

### СМАРГОНЬ

У Смаргоні на пытанне пра пракат ровараў адказалі:

– Ёсць толькі канькі, не трэба?

### АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

Пра пункты пракату ў гэтых гарадах "Рэгіянальнай газеце" дазнацца не ўдалося. Калі вы ведаеце яшчэ якія пункты пракату, раскажыце пра гэта іншым чытачам "Рэгіянальнай газеты"

**Наталля ТУР.**

КОНКУРСЫ

## Дзядулі ў Сасновым Бары змагаліся за званне лепшага

### МАЛАДЗЕЧНА

Конкурс "Супердзядуля-2015" прайшоў у пасёлку Сасновы Бор 8 мая.

Мерапрыемства, прысвечанае 70-годдзю Перамогі, арганізаваў Маладзечанскі цэнтр творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік".

Званне супердзядулі атрымаў пераможца **Серафім Гіль**.

Самыя актыўныя дзядулі навучэнцаў цэнтра прынялі ўдзел у разнастайных і творчых конкурсах. Калі ў "Візітоўцы" ўдзельнікаў прадстаўлялі іх унукі, то далей ініцыятыва перайшла да галоўных герояў: ім прыйшлося і на пытанні эрудыт-віктарыны адказаць, і ўнукаў ёгуртам накарміць.

Здзівіла дамашняе заданне "Умелыя рукі". **Аляксандр Мікалаевіч Міхайленка** змайстраваў з прыроднага матэрыялу "Ордэн Вялікай Айчыннай вайны". Уразіў сваім майстэрствам пераможца конкурсу **Серафім Юльянавіч Гіль**: ён сваімі рукамі пляце рыбалоўныя сеткі, а на конкурс прынёс самаробны гамак. А вось **Іосіф Міхайлавіч Даўгяла** выйшаў на сцэну... з мятлой Бабы Ягі. Справа ў тым, што ён дапамагаў рабіць рэквізіт для тэатральнай студыі "Казка", у якой займаецца яго ўнучка **Надзея**.

Упрыгожаннем свята стаў творчы конкурс "Хвіліна славы", які аб'яднаў усіх членаў сям'і ў дружную каманду. Кранула душу ваенная песня "Кацюша" ў выкананні сям'і **Міхайленкі**.

У журы быў запрошаны **Анатоль Уладзіміравіч Шастаковіч**, пераможца падобнага конкурсу, які праходзіў 5 гадоў таму. Як заўсёды, ён прыйшоў не з пустымі рукамі, а са сваім любімым гармонікам. І ў канцы свята ўсе атрымалі асалоду ад яго віртуознага валодання гэтым музычным інструментам.

– Мне вельмі спадабалася, мерапрыемства сямейнае, – адзначыла член журы **Тамара Шчыпоннікава**, старшыня пярвічнай ветэранскай Сасноваборскай арганізацыі. – Педагогу-арганізатару цэнтра "Маладзік" **Галіне Іванькінай** удалося згуртаваць дзяцей, падлеткаў і іх бацькоў.

**Ксенія РАГЕЛЬ, школа журналістыкі "Маладзік".**

## На Міжнароднай выставе СМІ ўганаравалі юных журналістаў

### МАЛАДЗЕЧНА

Вынікі рэспубліканскага фестывалю школьнай прэсы "Пунсовыя ветразі" падвялі ў Мінску 6 мая.

Фестываль праводзіцца часопісам "Народная асвета" на працягу 12 гадоў, а навучэнцы гуртка "Школа журналістыкі" Маладзечанскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі ўдзельнічалі ў ім ужо 10 раз. Газета "Маладзік" неаднойчы станавілася прызёрам, а сёлета адзначаная дыпломам за актуальнасць тэм і імкненне да дасканаласці.

Цырымонія ўзнагароджання ўдзельнікаў фестывалю праходзіла проста на Міжнароднай спецыялізаванай выставе СМІ. Таму юныя журналісты атрымалі заданне: сустрэцца з медыйнымі асобамі, узяць у іх інтэрв'ю, зрабіць фотарэпартаж. "А вы думалі, што на свята прыехалі? Не, журналіст заўсёды на працы", – усміхнуліся арганізатары фестывалю.

Атрымаўшы дыпломы і прызы, мы адправіліся выконваць даручэнне: удзельнічалі ў віктарынах, фатаграфавалі, сустракаліся з цікавымі людзьмі.

Ля экспазіцыі БДУ мы сустрэлі нашу выпускніцу **Ірыну Рудзько**, студэнтку 3 курса Інстытута журналістыкі. Яшчэ некалькі гадоў таму яна таксама прыязджала на выставу СМІ, а цяпер "пакарае" БДУ сваімі ведамі і ўменнямі, дае парады будучым абітурыентам.

**Яна БАШЫНСКАЯ, школа журналістыкі "Маладзік".**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

## Паркоўка для ровараў ў Вілейцы: як зрабіць лепш

### ВІЛЕЙКА

**Наш чытач не застаўся абыякавым да з'яўлення паркоўкі для ровараў ля хірургічнага аддзялення цэнтральнай раённай бальніцы.**

Выпрабаваў яе і даслаў у рэдакцыю ліст. Падпісаны ён, калі ўдалося правільна разабраць, пенсіянерам **Віктарам Кукушкіным**:

"Пішу наконт паркоўак для ровараў. Прыгожа, прыемна, але не для ўсіх ровараў і з недахопамі канструкцыі. Свой ровар, а такіх хуткасных шмат, я паставіць не змог".

Чытач парады з малюнкам прыклаў. Указвае, што "невялікая адлегласць паміж трубамі, не заходзіць вілка". Піша, што "не хапае ніжніх апор, бакавых, для колаў. Гэта асноўная памылка ўсіх паркоўак".

І дадае: "Правільна зробленыя паркоўкі па вуліцах 17 Верасня ля "Белаграпрамбанка" і па вуліцы Вадап'янава ля мэблевай крамы. Так што хай улічаць гэтыя парады і зробяць прыгожа і зручна".

### Вілка ровара не заходзіць

Пацвярджае, што не ўсе ровары можна ўладкаваць на гэтай паркоўцы, стваральнік вілейскага роварнага руху **Георгі Комар**. Ездзіць ён на горным хуткасным нямецкім "Фокусе".

– У сучасных ровараў зусім іншая сістэма і колы шырэйшыя. Асабліва калі стаіць дыскавы тармаз, як у майго ровара, то зусім не паставіш яго паміж труб. А з тормазам тыпу "ві-брэйк" ёсць шанец паставіць, бо сам механізм знаходзіцца зверху і заціскае вобад кола. Да таго ж шырыня амартызацыйнай вілкі з колам майго ровара каля 300 міліметраў. Неабходна, каб зазор паміж трубамі быў не меншы.

У прыклад Георгі прыводзіць паркоўку каля "Еўраопта", што ля "Зеніта". Там можна яго ровар паставіць.

Праверыў паркоўку рэдакцыйны эксперт **Ігар Мароз** на звычайным "Бусле". Колы яго ровара ўвайшлі толькі на трохі: маленькая адлегласць паміж трубамі, і вілка ровара не заходзіць.

### Заўвагі чытача ўлічаць

Гэтую паркоўку ўладкавалі ў межах конкурсу "Так – роварнаму руху". Праводзіла яго грамадскае аб'яднанне па садзейнічанні ўстойліваму развіццю Вілейскага раёна "ЗОВіК". Парады чытача перадалі старшыні праўлення "ЗОВіК" **Таццяне Цітуленка**.

– Найперш хачу выказаць шчырыя словы падзякі чытачу – за яго ўвагу да паркоўак і за тое, што ён карыстаецца роварам для язды па горадзе, – кажа яна. – Цяпер заканчваюцца работы яшчэ на трох паркоўках. Некаторыя з іх зробленыя зусім па-іншаму. Спадзяюся, што там можна будзе паставіць розныя ровары – у тым ліку і хуткасныя, як у чытача. У далейшым, калі будзем зноў рабіць паркоўкі, абавязкова ўлічым гэтыя заўвагі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АКЦЫІ

## Удзельнікі экавелапрабегу ўбачаць ачышчаную Пляснянку

### ВІЛЕЙКА

Адбудзецца экалагічны велапрабег 15 мая. Праводзіцца ён у межах тыдня ўстойлівага развіцця і прымеркаваны да 70-годдзя Перамогі.

Мяркуецца, што ў ім прыме ўдзел каля 40 чалавек: віляйчане, госці горада, журналісты.

Удзельнікі пазнаёмяцца з тым, як ажыццяўляюцца праекты ачысткі Пляснянкі і па раздзельным зборы смецця, што робяць у горадзе для аматараў ровараў. Пабываюць у Доме рамёстваў і на Вілейскім вадасховішчы.

Па папярэдняй інфармацыі, ад'езд намечаны на 12:30 ад цэнтральнай плошчы, расказала старшыня праўлення грамадскага аб'яднання па садзейнічанні ўстойліваму развіццю Вілейскага раёна "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Наталлі ТУР.

Першы гол у гульні супраць каманды са Ждановічаў з пенальці забіў Сяргей Лавор. На фотаздымку ён справа.

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# Маладзечна перамагае ў першай дамашняй гульні сезона

МАЛАДЗЕЧНА

**Гульня супраць каманды АК "Ждановічы" скончылася перамогай гаспадароў з лікам 2:0.**

З пераможным лікам маладзечанцы вызначыліся яшчэ ў першым тайме.

Першы мяч з пенальці ў вароты "Ждановічаў" забіў **Сяргей Лавор**. Не прымусіў сябе чакаць і другі гол. Яго здзейсніў **Аляксандр Парфёнаў.**

Галоўны трэнер каманды "Маладзечна ДЮСШ-4" **Аляксандр Гармаза** расказаў "Рэгіянальнай газеце", што вынікам гульні ён задаволены, а вось адносінамі ўладаў да каманды – не:

– Абяцанні так і засталіся на словах. Аўтобуса няма. Форме, у якой выйшлі гуляць футбалісты, ужо 8 гадоў. Можа так здарыцца, што ў 10 туры будзем гуляць босымі.

– Вось каб набралі 7 ачкоў, дык, магчыма, грошы знайшлі б. А так мы не апраўдваем чаканняў, – смяецца трэнер.

Што датычыцца сапернікаў, то Аляксандр Гармаза заўважыў, што каманда АК "Ждановічы" яму спадабалася.

> **– Магчыма, з трыбунаў магло падацца, што ў другім тайме Маладзечна крыху "падсела", але гэта не так. Усе ўстаноўкі, што былі зробленыя ў перапынку, каманда выканала.**

Прымусілі саперніка бегаць без мяча. Магчыма, некалькі момантаў не рэалізавалі, але ў цэлым вынікам задаволеныя.

**– Якую ўстаноўку атрымалі на наступную гульню? Атрымаць 10 ачкоў?**

– Устаноўку зрабілі мы самі сабе. Вядома, перамагаць.

Яшчэ Аляксандр Гармаза заўважыў, што ён задаволены станам поля і за гэта дзякуе адміністрацыі стадыёна.

– І, канешне, фанаты. Вельмі прыемна, калі так заўзеюць трыбуны. Шкада, што гледачоў пакуль не так шмат, як хацелася б. Але мы сваёй гульнёй будзем рабіць усё магчымае, каб глядач вярнуўся на стадыён.

Наталля ТУР.

ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## "Смаргонь" з'ездзіла да лідара – і перамагла

СМАРГОНЬ

**Футбольны клуб "Смаргонь" 10 мая накіраваўся ў Бярозу на гульню з лідарам чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе. Да гэтай сустрэчы у трох турах "Бяроза-2010" толькі выйгравала.**

Аднак смаргонцы перарвалі іх выйгрышную серыю.

– Хоць ехалі на матч з лідарам, наша каманда разлічвала толькі на перамогу, – дзеліцца прэсаташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч**. – Ва ўсіх лініях каманда згуляла выдатна. Абарона не дазволіла саперніку нічога стварыць.

Смаргонцы пачалі матч актыўна і маглі адкрыць лік ужо на першай хвіліне. Але выручыў варатар гаспадароў. Вельмі небяспечны момант быў ля варот "Бярозы-2010" і на 15-й хвіліне.

Атакавалі смаргонцы шмат, але сапернікі часта лавілі іх у афсайдную пастку.

У другім тайме малюнак гульні не змяніўся: па-ранейшаму атакавалі смаргонцы. І ў рэшце рэшт гульнявая перавага вылілася ў гол. На 58-й хвіліне класным пранікаючым пасам **Сяргей Крот** вывеў на ўдарную пазіцыю **Аляксандра Талканіцу.** Той не схібіў – гол!

На гэтым гульцы "Смаргоні" не супакоіліся. Працягвалі атакаваць. Але матч так і завяршыўся – 1:0 на карысць смаргонцаў.

Пасля гэтай гульні "Смаргонь" узнялася на чацвертае месца. "Бяроза-2010" апусцілася на другое. А наперад вырвалася "Іслач". Ад новага лідара "Смаргонь" адзяляе толькі два ачкі.

У наступным туры, 17 мая, "Смаргонь" будзе прымаць дома "Оршу".

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Пасляматчавы каментар галоўнага трэнера "Смаргоні" Мікалая Рындзюка:

– У сённяшнім матчы каманда шчыра падрадавала. Хлопцы выканалі ўсё, што ад іх патрабавалася. Сёння на полі была сапраўды каманда. Тры апошнія матчы ў Бярозе не маглі перамагчы, таму радыя, што перапынілі гэту серыю.

Усё было на высокім узроўні: і змест гульні, і перастраенні. Выдатна згулялі ў абароне, у саперніка практычна не было стопрацэнтных момантаў. Мы забілі заканамерны гол, стварылі дастаткова галявых момантаў, маглі забіваць і больш. Лічу, што заслужана перамаглі.

НАВІНЫ

## "Забудова-Буд" узначаліла табліцу пасля першага туру

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

У першым туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 10 мая ДЮСШ-4 з Маладзечна прымала "Вілію" з Вілейкі. Матч завяршыўся ўнічыю 1:1.

– Склад каманды абноўлены. Таму, лічу, першая гульня склалася для нас нармальна, – падзяліўся прадстаўнік "Віліі" **Алег Гулевіч.**

Абодва галы забілі ў першым тайме. І абодва – з пенальці. Адразу ў сярэдзіне тайма вызначыліся маладзечанцы – гол на рахунку **Касцюка**. А потым **Грыхуцік** зраўняў лік.

– У другім тайме гульня была вострая з абодвух бакоў, – працягнуў Алег Гулевіч.

"Забудова-Буд" з Чысці дома абыграла 3:0 "Зорку" з Пухавіцкага раёна. Дублем адзначыўся **Працкевіч**. Яшчэ адзін гол забіў **Ахрамовіч.**

Гэта перамога дазволіла "Забудове-Буд" узначаліць турнірную табліцу пасля першага туру.

## Вядомыя чвэрцьфіналісты

ВІЛЕЙКА

Па выніках трэцяга гульнявога дня вызначыліся восем лепшых камандаў, якія сустрэнуцца ў чвэрцьфіналах турніру па міні-футболе. "Буддэталі" згуляюць з "Шылавічамі", "Юніёр" – з "Нарачанскімі зорамі", "Рубін" – з "Воўкаўшчынай", "Першы Беларускі" – з "Мехатронікай", расказаў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.**

Астатнія каманды аспрэчаць месцы ад 9 да 16.

## Дзевяць камандаў спаборнічалі ў плаванні

ВІЛЕЙКА

У цэнтры фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" 8 мая адбыліся спаборніцтвы па плаванні сярод працоўных калектываў Вілейскага раёна. Прайшлі яны ў межах круглагадовай спартакіяды.

Прынялі ўдзел у спаборніцтвах дзевяць камандаў. Спаборнічалі яны ў эстафеце. Жанчына плыла 25 метраў, двое мужчын – па 50 метраў, распавёў інструктар-метадыст "Сатурна" **Аляксандр Вайда.**

Ва ўпартай барацьбе перамагла каманда Вілейскага водаканала, другімі былі прадстаўнікі ЖКГ. Замкнула тройку прызёраў каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях.

## Самыя трапныя працуюць на водаканале

ВІЛЕЙКА

Таксама 8 мая прайшлі спаборніцтвы па дартсе сярод працоўных калектываў Вілейскага раёна.

У камандным заліку першае месца заваявала каманда Вілейскага водаканала, другімі былі прадстаўнікі ЖКГ. На трэцім месцы – каманда Энергазбыту.

Самымі трапнымі паміж жанчын былі **Наталля Башлакова** ("Энергазбыт") і **Тацяна Шамоціна** ( ЖКГ). У мужчын перамаглі **Яўген Кажарновіч** з водаканала і прадстаўнік райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Вадзім Кеўліч**.

## У эстафеце перамагла каманда СШ №3

ВІЛЕЙКА

9 мая праходзіла 60-я традыцыйная эстафета па вуліцах горада, прымеркаваная да 70-годдзя Перамогі. Прымалі ўдзел каманды ўстаноў адукацыі Вілейкі.

– Ад першых метраў лідзіравала каманда гімназіі №2, але на фінішы іх абышлі прадстаўнікі сярэдняй школы N3, – расказаў Аляксандр Вайда. – Таксама ўпартая барацьба была за трэцяе месца. На фінішы каманда СШ №5 крыху апярэдзіла прадстаўнікоў гімназіі №1 "Логас".

## У турніры да Дня Перамогі перамаглі нарачанцы

МЯДЗЕЛ

На гарадскім стадыёне ў райцэнтры 8 мая прайшоў турнір па футболе сярод вучняў. Прысвячаўся ён Дню Перамогі і памяці загінулых партызан спецатрада "Баявы".

Узялі ўдзел чатыры каманды. У фінале сустрэліся прадстаўнікі Нарацкага і Крывіцкага раёнаў. Асноўны час завяршыўся ўнічыю 2:2, а ў серыі пенальці мацнейшымі былі нарачанцы.

Трэцяе месца на рахунку каманды Мядзела, расказаў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Мядзельскага райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі**.

Алесь ВЫСОЦКІ.

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ



Фота Гжэгажа ГРАБОЎСКАГА.

9 мая ў Вілейцы на Вілляніным хутары адбыўся рыцарскі турнір.

● СПАБОРНІЦТВЫ

## Запрашаем удзельнічаць у квэсце ад "Рэгіянальнай газеты"

МАЛАДЗЕЧНА

"Рэгіянальная газета" ладзіць квэст для тых, хто не баіцца інтэлектуальных выпрабаванняў у экстрэмальных умовах.

Ён пачнецца ў 11 гадзін у суботу, 23 мая.

Удзельнічаюць у квэсце каманды па пяць чалавек. Для ўдзелу неабходна папярэдне зарэгістравацца ад каманды.

Дашліце ліст, у якім пазначце імёны і прозвішчы пяці ўдзельнікаў, а таксама капітана каманды і нумар яго тэлефона. Адрас пошты: **regionnews@rh.by**.

У адказ арганізатары дашлюць паведамленне з далейшай інструкцыяй.

Калі вы хочаце ўдзельнічаць, але вам складана сабраць каманду, дасылайце адзіночны запыт.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Маленькі свет**" (жорсткая меладрама), *Алена Папова*
19 мая, аўторак, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Вакзал на траіх**" (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
21 мая, чацвер, – у 19:00

**Тэатр мае права на замену спектакляў**

*Маладзечна, вул. Чкалава, 7.*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by
http://theatre-modt.by
УНП 600066659

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 2 | | | | 5 | | |
| | 4 | | | | | | 7 | |
| 1 | 7 | 8 | | 2 | | | 9 | |
| | | | 6 | | 3 | | 5 | |
| | 2 | 3 | | 5 | | 1 | 8 | |
| | 5 | | 2 | | 4 | | | |
| | 6 | | | 4 | | 8 | 1 | 9 |
| | 9 | | | | | | 3 | |
| | | 7 | | | | 4 | | |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

***Да 70-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне***

Ваенная драма "**А світанні тут ціхія...**" (3D, Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
16 мая – у 17:30
18 мая – у 18:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Ваенная драма "**Дарога на Берлін**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
15 мая – у 18:15
20 мая – у 17:45
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя "**Лыжка для салдата**" (Беларусьфільм, 2015, без узроставых абмежаванняў. Яго будуць паказваць перад фільмам "Дарога на Берлін")
15 мая – у 18:00
20 мая – у 17:30
Цана білета: 3 000 рублёў

ВЯЛІКАЯ ЗАЛА

Анімацыя, камедыя "**Баранчык Шон**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2015, без узроставых абмежаванняў)
16 мая – у 13:20
17 мая – у 12:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі "**Дом**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
16 мая – у 15:20
17 мая – у 14:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя "**Адной левай**" (Расія, 2015, з 16 год)
15, 16 мая – у 20:00
17 мая – у 21:30
19 мая – у 21:00
20 мая – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Ваенная драма "**Бітва за Севастопаль**" (Расія, Украіна, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
17 мая – у 16:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер "**Звар'яцелы Макс: Дарога лютасці**" (3D, Аўстралія, 2015, з 16 год)
15, 16 мая – у 22:00 ( 60 000 рублёў)
17 мая – у 19:00
18 мая – у 21:00
19 мая – у 18:30
20, 21 мая – у 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Прыстойныя людзі**" (Расія, 2015, з 16 год)
21 мая – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастыка, дэтэктыў "**Зямля будучыні**" (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
21 мая – у 17:20
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Бабай**" (Украіна, Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
16 мая – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Пушыстыя супраць зубастых**" (Паўднёвая Карэя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
15 мая – у 17:30
16 мая – у 17:00
17 мая – у 14:00 Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Неверагодныя прыгоды ката**" (Францыя, 2013, без узроставых абмежаванняў)
17 мая – в 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Дакументальны фільм "**Спакушэнне д'ябла**" (Беларусь, 2015, з 16 год)
16, 20 мая – у 21:00
18 мая – у 21:30 Цана білета: 3 000 рублёў

Камедыя "**Дзень дурня**" (Расія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
15 мая – у 21:30
17 мая – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Ваенная драма "**Снайпер. Апошні выстрал**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
15, 19 мая – у 19:30
16, 21 мая – у 19:00
17 мая – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма "**Вядзьмарка**" (Расія, 2006, з 16 год)
16 мая – у 21:00
18 мая – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Падарунак з характарам**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
20 мая – у 19:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прэм'ера! Меладрама "**Прышпіліце рамяні**" (Італія, 2014, з 16 год)
19 мая – у 21:30
21 мая – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Жахі "**Сінявір**" (ЗША, Украіна, 2013, з 16 год)
20 мая – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама "**Прышпіліце рамяні**" (Італія, з 16 год)
15, 16, 17 мая – у 18:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Трылер "**Паветраны маршал**" (Вялікабрытанія, ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
15, 16, 17 мая – у 20:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Прыгоды мышаняці**" (Перу, без узроставых абмежаванняў)
16 мая – у 14:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Анімацыя "**Астэрыкс: Зямля Багоў**" (Францыя, без узроставых абмежаванняў)
17 мая – у 14:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Камедыя "**Дзень дурня**" (Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
20, 21 мая – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Фантастыка, драма "**Пасвечаны**" (ЗША, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
20, 21 мая – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Ваенная драма "**Дарога на Берлін**" (2D, Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
15 мая – у 18:00
16 мая – у 17:00
21 мая – у 18:30
Цана білета – 45 000 рублёў

Трылер, баявік "**Звар'яцелы Макс: Дарога лютасці**" (3D, Аўстралія, з 16 год)
15 мая – у 20:00
Цана білета – 58 000 рублёў (+ дак. фільм)
16, 20 мая – у 21:00
17 мая – у 19:00
21 мая – у 20:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Суперкаманда**" (3D, Іспанія, Аргенціна, без узроставых абмежаванняў)
16 мая – у 13:00
17 мая – у 14:30
Цана білета – 30 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Баранчык Шон**" (2D, Вялікабрытанія, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
16 мая – у 15:00
17 мая – у 12:30
Цана білета – 25 000 рублёў

Камедыя "Адной левай" (2D, Расія, з 16 год)
16 мая – у 19:00
17 мая – у 21:30
20 мая – у 18:30
Цана білета – 45 000 рублёў

Ваенная драма "**А світанні тут ціхія**" (3D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
17 мая – у 16:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

● ГАРАСКОП
15-21 МАЯ

**Авен.** Перыяд роўны, спакойны, ён дазволіць ўзнавіць сілы, заняцца тым, што даўно было запланавана.

**Цялец.** У вас адкрываюцца новыя прафесійныя перспектывы, але гэта прымушае яшчэ больш адказна адносіцца да сваіх абавязкаў. Вы справіцеся.

**Блізняты.** Перыяд спрыяльны, але пахвалявацца прыйдзецца. Асноўная прычыны перажыванняў – сумненні ў сумленнасці людзей, якім вы даверыліся.

**Рак.** Вас чакаюць рознабаковыя дзелавыя кантакты, у тым ліку тыя, якія адкрыць галавакружныя перспектывы. Будзе шмат работы, але няма ніякай неабходнасці спраўляцца з усім самастойна, ёсць жа правераныя людзі.

**Леў.** Не думайце пра людзей дрэнна, шукайце ў кожным станоўчы бакі, недахопы ігнаруйце. Цярпенне і добразычлівасць, хоць і не проста іх праяўляць, акупяцца сто разоў.

**Дзева.** Вы атрымаеце падтрымку сям'і, сяброў і партнёраў ва ўсіх пачынаннях. Але пагардлівыя адносіны да іх сыграюць злы жарт.

**Шалі.** Вы можаце трапіць у сітуацыю, калі за вамі будзе апошняе слова. Ад вашага рашэння будзе многае залежаць. Але трэба ўсё ўзважыць.

**Скарпіён.** Цяпер актывуецца падсвядомасць, могуць быць яркія і важныя сны. Звярніце на іх увагу, можа, менавіта ў іх вам даецца нейкая падказка.

**Стралец.** Не спяшайцеся прымаць рашэнні, выкарыстайце вольны час для свайго задавальнення. У асабістым жыцці вы не будзеце праяўляць ініцыятыву, таму складзецца сітуацыя, калі рашэнні будуць прымаць за вас.

**Казярог.** Не спяшайцеся, будзьце спакойныя – ваша ад вас не сыдзе, калі вы зробіце акцэнт не на прафесійную сферу, а прысвеціце больш часу вывучэнню новага, роздумам і сям'і. Бо менавіта моцныя "дамашнія тылы" падтрымаюць вас у любых пачынаннях і дадуць стымул да перамог.

**Вадалей.** Калі ў вас будуць думкі, як палепшыць фінансавы стан, то на свет з'явіцца цудоўны план, які дапаможа нядрэнна зарабіць. Смела плануйце адпачынак, рамонт, буйныя пакупкі.

**Рыбы.** Вы не застанецеся без падтрымкі звыш, калі возьмецеся за сур'ёзнае навучанне ці пастараецеся ўладкаваць сваё ўласнае жыццё.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**




**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **Rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## ● НАДВОР'Е

**16 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +8 / +15 | | +5 / +12 | | +6 / +11 | | +5 / +11 | |
| | 734 | → 5 | 738 | ↘ 6 | 734 | → 6 | 735 | → 6 |
| Вільня | +6 / +11 | | +3 / +9 | | +6 / +9 | | +4 / +10 | |
| | 742 | ↗ 4 | 747 | ↘ 7 | 742 | → 8 | 743 | → 8 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, заход па Маладзечне.

Усход 5.06
Захад 21.12
Даўжыня дня 16.06

Усход 4.32
Захад 18.54
Квадра 4




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +1,9°С у 1995 годзе
Максімальная тэмпература +29,6 °С у 1983 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 37,9 мм у 2003 годзе
Назіранні за 38 гадоў. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● Як зрабіць адпачынак у Егіпце па-сапраўднаму незабыўным? Сваім досведам дзеліцца дырэктар Вілейскага каледжа Ігар Кіцікаў.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чаго вы баіцеся?



**Таццяна Куркова, педагог дадатковай адукацыі:**
– Са школы баюся мышэй. Нас тады вазілі на бульбу ў саўгас "Любань", і хлопцы знайшлі гняздо з мышанятамі. Кінулі ў дзяўчынак, а мне за каўнер аж дзве штукі патрапілі. Гэта быў жах. З таго часу, як убачу мыш, раву так, што людзі палохаюцца.



**Людміла Пянткоўская, часова не працуе:**
– Я баюся вышыні так, што пачынае кружыцца галава і падкошваюцца ногі. Калі не схаплюся за што рукамі, дакладна зваліся. На балкон стараюся або не выходзіць наогул, або, калі надта ўжо трэба, не гляджу ўніз.



**Вольга Галубовіч, цырульніца:**
– Фобій у мяне няма. Я лічу, што любую боязь можна пераадолець. Як і ўсіх, часам мяне можна напалохаць, што заўгодна, але, узяўшы сябе ў рукі, я выпраўляю гэта становішча.



**Ала Сяркова, вядучы эканаміст, Дзяржынск:**
– У мяне пачынаецца паніка тады, калі ў мяне няма наяўных грошай.



**Раман Ганчароў, слесар:**
– Часам цемры баюся. Асабліва, калі знаходжуся адзін. Калі побач няма людзей, дзенебудзь каля лесу, ці на полі, ці ў парку. Бярэ жах, што хтонебудзь у цемры злосны побач знаходзіцца.

Падрыхтавала Наталля ТУР.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 20 (1046) 15.05.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 636. Падпісана ў друк у 9.00 14.05.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.